Жыве Беларусь!

# Родная ніва

Газета ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

2000
3 МАЯ
СЕРАДА
№ 35 (9522)

Заснавана ў красавіку 1918 года

## Дзяржава не пакіне людзей у бядзе

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка 26 красавіка, у дзень 14-й гадавіны з дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС, наведаў Нараўлянскі і Брагінскі раёны Гомельскай вобласці, якія найбольш пацярпелі ад катастрофы.

У Нараўлянскім раёне, у самым эпіцэнтры чарнобыльскай катастрофы, у зоне адчужэння, Аляксандр Лукашэнка ўсклаў кветкі да памятнага знака пахавання вёскі Карповічы, дзе да аварыі было 67 двароў і пражывала 185 жыхароў. Цяпер тут, у цэнтры Прыпяцкага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка, самая забруджаная радыёнуклідамі тэрыторыя. Неабходна зрабіць усё, каб навуковыя даследаванні, якія вядуцца тут, былі прадоўжаны з карысцю для гэтых зямель, — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

У час сустрэч з жыхарамі пацярпелых вёсак Прэзідэнт Беларусі паабяцаў, што дзяржава не пакіне іх сам-насам з бядой, усе намаганні будуць накіраваны на тое, каб увесці ў строй аздараўленчыя цэнтры, правесці ахоўныя мерапрыемствы ў аграпрамысловым комплексе і ў лясной гаспадарцы, аказаць сацыяльную падтрымку насельніцтву.

## Маладзёжная палітыка — важнейшы прыярытэт дзяржавы

Звыш 600 дэлегатаў з усіх куткоў Беларусі, а таксама прадстаўнікі дзяржаў блізкага і далёкага замежжа прынялі ўдзел у другім з'ездзе Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, які прайшоў 25 красавіка ў Мінску. Ганаровым госцем на форуме стаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Выступаючы перад удзельнікамі з'езда, кіраўнік дзяржавы адзначыў, што галоўным вынікам трохгадовай дзейнасці саюза з'яўляецца тое, што БПСМ адбыўся як дзяржаўная маладзёжная арганізацыя. У яе радах цяпер больш як 200 тысяч чалавек. На думку Прэзідэнта, БПСМ павінен не проста даць шанц маладым людзям, але і зрабіць усе, каб такі шанц быў выкарыстаны. Зразумела, пры ўдзеле ўсіх дзяржаўных структур. Маладзёжная палітыка, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, — адзін з важнейшых прыярытэтаў дзяржавы.

## Пятая сесія раённага Савета дэпутатаў

У зале пасяджэнняў райвыканкама прайшла чарговая, пятая сесія раённага Савета дэпутатаў.

Сесію адкрыў старшыня раённага Савета дэпутатаў **С. М. Баранаў.**

Па яго прапанове выбіраецца сакратарыят сесіі ў складзе дэпутата ад Стара-Дзедзінскай выбарчай акругі № 28 **М. Н. Мінчанкі,** дэпутата ад Мірнай выбарчай акругі № 17 **Л. М. Багамолавай.**

З дакладам "Аб стане і мерах па паляпшэнню экалагічнай абстаноўкі ў раёне і выкарыстанні прыродных рэсурсаў" выступіў старшыня раённага Савета дэпутатаў **С. М. Баранаў**.

Садаклад на сесіі па абмяркоўваемай праблеме зрабіў старшыня пастаяннай камісіі раённага Савета дэпутатаў па аграрных пытаннях, зямельных адносінах, праблемах чарнобыльскай катастрофы, экалогіі і прыродакарыстанню **В. Я. Галянкоў**.

У абмеркаванні даклада і садаклада прынялі ўдзел: **С. П. Сяргееў** — загадчык аддзела гарадской і камунальнай гаспадаркі райвыканкама, **В. А. Бромбін** — начальнік службы механізацыі аўтатранспарту клімавіцкіх электрасетак, **А. П. Старасцін** — старшыня Гусаркаўскага сельскага Савета дэпутатаў, **М. М. Краўчанка** — начальнік раённай інспекцыі па экалогіі, **І. І. Драздоў** — галоўны інжынер раённага вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі, **Д. У. Грэсеў** — загадчык аддзела зямельнай рэформы райвыканкама, **В. М. Талалаеў** — выканаўчы дырэктар раённага савета Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, **В. А. Цярэшчанка** — дырэктар Касцюковіцкага лясгаса, **В. В. Кавалёў** — загадчык раённага аддзела адукацыі.

Сесія адмовіла камбінату будматэрыялаў у прадастаўленні льготы па ўплаце падатку на нерухомасць і на зямлю на 2000 год.

Дэпутаты вырашылі прадаставіць льготы на бягучы год па ўплаце падаходнага падатку прыватным прадпрымальнікам Міроненку В. В., Бабічаву С. М., Лук'яненку А. М., Ефіменку Н. Н.

Былі зацверджаны рашэнні раённага выканаўчага камітэта ад 23.12.1999 г. № 19-3, 26.01.2000 г. № 1-29, 26.01.2000 г. № 1-30, 11.02.2000 г. № 2-7, 17.02.2000 г. № 2-4, 23.02.2000 г. № 3-18, 20.03.2000 г. № 4-10, 28.03.2000 г. № 4-21 "Аб выдзяленні дадатковых грашовых сродкаў".

Сесія вырашыла перайменаваць пасёлак Будаўнікоў у вуліцу Індустрыяльную.

Пры гэтым дэпутат У. І. Абулхаіраў выказаў думку аб тым, каб у Клімавічах з'явілася вуліца імя Францішака Багушэвіча.

На сесіі разгледжаны рад іншых актуальных пытанняў.

**Ураджай-2000**

## *Пасяўная ў агароднінаводаў*





Каб на святы было што да стала, над вырашэннем гэтага спрадвечнага пытання штогод працуюць у аграгандлёвым прадпрыемстве "Асмолавічы". Летась, да прыкладу, планы вырошчвання агародніны былі выкананы. Добрыя выраслі агуркі, капуста, буракі. А пасяўная звычайна ў мясцовых агароднінаводаў распачынаецца яшчэ калі за акном ляжаць гурбы снегу.

Наведаўшы днямі мясцовыя цяпліцы, былі прыемна здзіўлены і ўражаны. Пад плёнкай буяла расада капусты, памідораў, перцу... А агуркі, дык тыя ўжо зацвіталі і па нітках цягнуліся ўсё вышэй і вышэй ўверх.

Агароднінаводы якраз займаліся сваімі справамі. Рыхтавалі наступныя цяпліцы. "У нас усе жанчыны працуюць старанна. Усіх іх фатаграфуйце", — казала нам брыгадзір агароднінаводаў Н. П.Купцова.

Дарэчы, Надзея Пятроўна ўжо сорак год, як займаецца сваёй агароднай справай. Так бы мовіць, своеасаблівы юбілей. А таму ёсць ёй што перадаць з багатага прафесійнага вопыту, як падначаленым, так і прыехаўшым на праходжанне практыкі двум студэнткам Жыліцкага сельскагаспадарчага каледжу Алене Швяцовай і Таццяне Бадзяка з Клімавіч. **(На здымку яны з Н. П. Купцовай).**

Займаюцца абедзьве ўжо на чацвёртым курсе і неўзабаве атрымаюць прафесію аграномаплодаагароднінавода. І Надзея Пятроўна спадзяецца, што яны пасля вучобы вернуцца ў прыгарадную гаспадарку. Ёй на змену працаваць. Бо ўзімку ўжо было аформілася зусім на заслужаны адпачынак, аднак кіраўніцтва папрасіла яшчэ папрацаваць з людзьмі.

Разам крочым у цяпліцы. Агароднінаводы-пенсіянеркі Браніслава Іванаўна Малашанка, Анастасся Андрэеўна Асмалоўская, Ганна Уладзіміраўна Судзілоўская, а таксама маладзейшыя Святлана Паралёва, Людміла Саўчанка, Святлана Вішнеўская месяцца каля расады капусты, каб сфатаграфавацца. **Іх вы і бачыце на другім здымку.**

А яшчэ ж не патрапілі ў кадр Таццяна Кулагіна, Таццяна Бакланава. Не менш працавітыя Марыя Ціханаўна Асмалоўская і Ларыса Віктараўна Васілеўская. Яны абедзьве вырошчваюць агародніну ў дзвюх цяпліцах.

Работа ладзілася ў мясцовых агароднінаводаў. Яны размясцілі агародніну ўжо ў дзвюх цяпліцах на тысячы квадратных метраў. І яшчэ дзвюх пад агуркі на 900 і адной — пад раннія памідоры на 450 квадратных метраў.

Астатнія ўсе расадныя цяпліцы. Засеяны насеннем і накрыты плёнкай ад халадоў. Вырошчваецца расада ранняй, сярэдняй і позняй капусты. Да нашага з вамі стала.

**І. ЛАПО.**
**Фота В. АСМАЛОЎСКАГА.**

## ДОШКА ГОНАРУ

### *Лепшыя механізатары калгасаў і саўгасаў раёна на веснавых палявых работах*

**(Згодна даных райкама прафсаюза работнікаў АПК)**

**Міхеенка Аляксандр Пятровіч** — механізатар племзавода "Ціманава". На трактары МТЗ-80 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 за дзесяць дзён пасеяў 510 гектараў зерневых пры норме 400 гектараў, або выканаў яе на 127,5 працэнта.

**Іваноў Міхаіл Іванавіч** — механізатар саўгаса "Малышкавічы". На трактары МТЗ-80 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 за адзінаццаць дзён пасеяў 422 гектары зерневых пры норме 220. Выкананне яе склала 192 працэнты.

**Старавойтаў Сяргей Уладзіміравіч** — механізатар калгаса "Сасноўка". На трактары МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СЗУ-3,6 за дзесяць дзён пасеяў 240 гектараў зерневых пры норме 120 гектараў, выканаўшы яе на 200 працэнтаў.

**Градаў Леанід Кузьміч** — механізатар калгаса імя Янкі Купалы. За адзінаццаць дзён пасеяў 160 гектараў зерневых пры норме 128, выканаўшы яе на 125 працэнтаў.

**Ярцаў Андрэй Віктаравіч** — механізатар калгаса "Галіцкі". На трактары МТЗ-82 у агрэгаце з сеялкай СПУ-6 за шэсць дзён пасеяў 150 гектараў зерневых пры норме 108, або справіўся з ёю на 138 працэнтаў.

**Падрыхтаваў І. ЛАПО.**

## ДОШКА ГОНАРУ

### *Лепшыя гаспадаркі на сяўбе яравых зерневых і зернебабовых культур 2000 года (па стану на 28 красавіка г. г.)*

**Калгас "Герой працы"** (старшыня А. К. Баўкуновіч, галоўны аграном А. І. Буракоў, адказны ад райвыканкама С. П. Сяргееў). У гаспадарцы пасеяна 89 працэнтаў запланаваных плошчаў!

**Калгас імя Янкі Купалы** (старшыня У. Я. Цыбульскі, галоўны аграном Р. Д. Курносава, адказны ад райвыканкама С. М. Свецянкоў). Зерневыя размешчаны на 88 працэнтах плошчаў, адведзеных пад зерневыя.

**Саўгас "Малышкавічы"** (дырэктар М. С. Пашкевіч, галоўны аграном В. І. Цімашэнка, адказны ад райвыканкама М. М. Краўчанка). Мясцовыя хлебаробы засеялі 86 працэнтаў плошчаў зерневых.

## Адстаюць на сяўбе

**(па стану на 28 красавіка г. г.)**

**Племсаўгас "Высакоўскі"** (дырэктар М. І. Скупяка, галоўны аграном І. Я. Пруднікаў, адказны ад райвыканкама С. І. Раманенка). Тут пасеяна толькі 36 працэнтаў яравых зерневых і зернебабовых культур.

**Калгас "Чырвоны сцяг"** (старшыня М. У. Школьнікаў, адказны ад райвыканкама А. Д. Курбанаў). Зерневыя размешчаны ўсяго на 44 працэнтах адведзеных плошчаў.

**Птушкафабрыка** (дырэктар У. К. Бразгоўка, галоўны аграном А. М. Залаценка, адказны ад райвыканкама М. М. Далгун). Пасеяна толькі 43 працэнты плошчаў, адведзеных пад сяўбу.

## Лепшая вучаніца года



. Не так даўно ў раёне прайшоў конкурс "Вучань года", у якім прынялі ўдзел лепшыя прадстаўнікі школ горада. Арганізавалі і правялі мерапрыемства РК ГА БПСМ, раённы аддзел адукацыі, аддзел па справах моладзі райвыканкама.

За перамогу ў конкурсе змагаліся Аксана Свердлава з першай гарадской школы, Юрый Пачачуеў з другой гарадской школы, Галіна Давыдова, якая вучыцца ў трэцяй гарадской школе, Аня Саўкіна, вучаніца чацвёртай гарадской школы.

Ва ўпартай барацьбе перамагла Аксана Свердлава.

Кожны з удзельнікаў конкурсу атрымаў каштоўныя падарункі, якія ўручыў рабятам выконваючы абавязкі першага сакратара РК ГА БПСМ С. М. Быкаў.

**Н. ВОЛЬНЫ.**

**На здымку: С. М. Быкаў віншуе пераможцу конкурса "Вучань года" Аксану Свердлаву.**

# Не прырода з лысінкай, а людзі

ЛЕДЗЬ ПАЛАГОДНЕЛА сонейка, як людзі цугам пацягнуліся на прыроду. Першымі гэта, бадай, зрабілі маладыя: душа просіць волі, размаху, веснавых уражанняў. Расправілі плечы, дакладней, вуды, рыбакі. Ды і каму, скажыце на міласць, ахвота сядзець дома, калі столькі спраў. Трэба ж і парадак нейкі навесці. А куды ўжо смецце прыткнуць — гэта не праблема.

Як едзеш на Паўлавічы сярод зеляніны позірк раптам спатыкаецца праз які кіламетр ад горада аб несанкцыянаваную звалачку (назавем яе так). Калі ж хто захоча падыхаць свежым паветрам у наваколлі, то абавязкова наткнецца на яшчэ некалькі звалак, схаваных сярод гаю. Ад каго хаваемся, і куды глядзяць леснікі?

Насупраць мехдвара калгаса "Новае жыццё" таксама, побач з дарогай на Востраў, утварылі "выставу". Быццам бы цяжка было рознае смецце ссунуць на некалькі метраў далей, у кар'ер.

На гэты раз сельскаму Савету ў Лазовіцы было вынесена прадпісанне.

Праязджаючы па Паўлавічах, Асмолавічах, бачна, што работа па ачыстцы вёсак ад прадуктаў чалавечай неахайнасці пачата. Жыхары ў большасці стараюцца ля дамоў больш-менш нешта зрабіць. Псуюць выгляд недагледжанасць бясхозных двароў, дзе ўбіраць некаму. Ля будуючыхся дамоў на цэнтральнай сядзібе АГФ "Асмолавічы" (бліжэй да ўскрайку) у хмызняку таксама паскідана рознае смецце.

На тэрыторыі мясцовай школы пастараліся — тут заўваг у рэйдавай не было. Ды ўвогуле аказалася б адваротнае дзіўным і незразумелым.

*Р э й д*

Але вунь ля трасы ў прыдарожнай зеляніне мільганулі кучкі смецця...

Перад уездам у Клімавічы з боку Лазовіцы злева ад дарогі па вуліцы Камуністычнай жыхары блізляжачых дамоў спакойненька гэтак утварылі смеццезборнік, выкідваюць усё, што псуе наваколле. Балазе, папрасілі члены рэйдавай працуючага непадалёк трактарыста, каб хоць крыху загарнуў сорам. Але ж не верыцца, што праз некалькі дзён тут зноў нічога не з'явіцца. Звычка засмечваць — наша згуба.

ПАБЫВАЛІ мы і на тэрыторыі Дамамерыцкага сельскага Савета. Яго старшыня Р. С. Кандрацьева якраз займалася аб'ездам вёсак разам з участковым інспектарам міліцыі з нагоды санітарнага добраўпарадкавання. Між іншым, на прайшоўшым суботніку работнікі Савета і іншыя працавалі на Дамамерыцкіх могілках, дзе ўжо не першы год стараюцца хоць што-кольвечы зрабіць, каб не выглядала яно такім, прабачце, недагледжаным.

Трэба павывезці звалкі і прадпрымальнікам "Белагракантракта" ў Палошкава. Яны размясціліся на тэрыторыі былой станцыі тэхабслугоўвання.

Калі гаварыць у цэлым, то ўсім Саветам ніколі не шкодзіць хаця б побач са сваімі адміністрацыйнымі будынкамі і кветак пасадзіць паболей, не для блізіру, і адміністрацыйную камісію належыць выкарыстоўваць як сродак для выхавання насельніцтва. Пакуль жа палітыка ў многіх іх работнікаў даволі празрыстая: лепей вытрымаць крытыку прыязджаючых камісій, чым сапсаваць адносіны з мясцовымі, з аднавяскоўцамі. Таму і лаяльнічаюць: знайсці ацштрафаваных за беспарадак цяжка.

Не, зусім не прырода, як кажуць, з лысінкай. Гэта мы, спяшаючыся на ўсіх парах у цывілізаваны свет, забываем, што і паводзіць сябе трэба культурна. Бо вобраз звалак, апушчэнства, няспешна пранікшы ў падсвядомасць, наўрад ці будзе садзейнічаць прагрэсу асобы: няхай мы перасядзем на самыя дарагія іншамаркі, ці рванём заўтра на Гаваі.

**У рэйдзе ўдзельнічалі: М. САВЕЛЬЕВА, упраўляючы справамі райвыканкама; М. КРАЎЧАНКА, начальнік раённай інспекцыі па экалогіі; Д. КУЗЬМІЧ, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач райЦГЭ; М. ГЛУЗДОЎ, супрацоўнік рэдакцыі раённай газеты "Родная ніва".**

*Школьнае жыццё*

## Улічваем інтарэсы кожнага вучня

Вялікамохскую сярэднюю школу наведвае 87 вучняў. Дапамагаюць хлопчыкам і дзяўчынкам, юнакам і дзяўчатам ісці ўпэўненым крокам па дарозе ведаў 16 вопытных педагогаў.

Па словах дырэктара школы Станіслава Сазонавіча Родзькіна, калектыў навучальнай установы невялікі, але зладжаны, дзе ўсе добра ведаюць адзін аднаго. Кожны педагог працуе творча.

— Мы стараемся ўлічыць інтарэсы кожнага вучня, — кажа Станіслаў Сазонавіч, — з гэтай нагоды ў школе працуе шмат гурткоў па інтарэсах. У нас кожны вучань здольны абраць сабе тое, што яго больш цікавіць. Тут табе і драматычны гурток, і гурток "Умелыя рукі", і спартыўная секцыя, і гурток тэхнічнай творчасці. Акрамя таго, у нас працуюць гурткі па прадметах, кожную суботу вучні школы збіраюцца на сяброўскія вечарыны.

Ведаеце, на вёсцы для маладога чалавека цяжка арганізаваць змястоўны і цікавы адпачынак. Таму школа і павінна клапаціцца аб гэтым. Ну а пра тое, як у нас атрымліваецца справа, сведчыць вялікая колькасць наведвальнікаў гурткоў і сяброўскіх вечарын.

І тут вялікую справу робіць Галіна Уладзіміраўна Саўчанка — загадчыца Кісялёва-Будскага сельскага клуба, з якой у нас наладжана супрацоўніцтва. Асобныя словы ўдзячнасці трэба выказаць педагогу-арганізатару школы Валянціне Віктараўне Казловай. Сяброўскія вечарыны — яе задумка.

Не так даўно ў школе прайшоў вечар сустрэчы з былымі выпускнікамі навучальнай установы. Шмат хто з былых вучняў скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы рэспублікі і паспяхова працуюць у нашым раёне.

Напрыклад, у калгасе "Рабочы" працуюць адразу два нашыя выпускнікі: Людміла Уладзіміраўна Гарбачова — галоўны бухгалтар гаспадаркі, Міхаіл Аляксандравіч Саковіч — галоўны інжынер калгаса. Ды і ў райвыканкаме паспяхова працуюць Васіль Васільевіч Кавалёў, Іван Андрэевіч Баршчоў — таксама нашы былыя вучні. Нямала былых выпускнікоў і сярод нашых настаўнікаў.

**Н. ВОЛЬНЫ.**

●**Спадчына**

## Зямля, дзе пачаўся мой лёс

### (З гісторыі паходжання назваў вёсак Клімавіцкага раёна)

**(Пачатак у №№ 29-34)**

**ГРАЗІВЕЦ**
**(Лабжанскі сельскі Савет)**

Раней на гэтым месцы было балота, гразь. Але меліся залежы мела, гліны. Тут быў збудаваны панскі маёнтак, а паселішча атрымала назву Гразівец. Праз гэтую гразь праходзіў так званы "кацярынінскі шлях" з Клімавіч на Чэрыкаў. У свой час гэта вёска была, як і Лобжа, буйным населеным пунктам, цэнтрам сельскага Савета.

**Запісала К. У. ЧАРНЯКОВА.**

**ГУСАРКА**

Легенды расказваюць: вёска Гусарка называлася раней Гусаркаўшчына і месцілася на 1,5 км да ўсходу ад сучаснага месца. У 1770 годзе на гэтым месцы былі размешчаны пагранічныя пасты, дзе стаялі гусары. Адсюль і назва вёскі.

**Запісаў В. КУРНОСАЎ.**

**ДАМАМЕРЫЧЫ**

Легенды расказваюць: на былой тэрыторыі вёскі рос непралазны хмызняк. Першыя перасяленцыз'явіліся, прыкладна, у 14-15 стагоддзі. Месца гэта называлі ў народзе "немярэч" або "мярэч". Калі былі зроблены першыя забудовы на беразе Сасноўкі, то казалі: "будуюць дамы ў мярэчы" або "Будуюць дамы ў немярэчы". Да вайны тут мелася царква, потым у ёй размяшчалася школа, управа Хатовіжскай воласці.

**Расказаў А. Я. АЎРАМЕНКА.**

Там, дзе зараз праходзіць асфальтная дарога "Масква — Варшава", у даўнія часы цякла рэчка і называлася яна — Княгіня. І жыло тут племя дамамерычаў, накшталт руракавічаў.

**Са слоў П. ШАЎЦОВА...**

**ДАРАГІНЬ**

Назва вёскі пайшла ад таго, што яна размешчана на самым перакрыжаванні дарог.

**ЗАРУЧЧА**

У мінулыя гады існаваў звычай. Тыя, хто збіраліся будавацца, цягнулі жэраб. І каму дзе выпадала, той там і будаваў. Некаму выпала будаваць жыллё за ручаём. Потым там пачалі сяліцца і іншыя. Атрымалася назва "Заручай", а потым — Заручча. Былы ручай ператварыўся ў невялікую рачулку, якая завецца Калінка.

**Запісала К. У. ЧАРНЯКОВА.**

**ЗВЯНЧАТКА**

З гісторыі: Па загаду Кацярыны II на тэрыторыі Беларусі пачалі пракладваць, пераважна са стратэгічнымі мэтамі, прамыя і роўныя гасцінцы. Іх абсаджвалі двума або чатырма радамі бяроз. У народзе гэтыя дарогі і сёння часта называюцца "кацярынінскімі шляхамі". Пэўна, на ўсёй тэрыторыі Клімавіцкага раёна можна сустрэць векавыя бярозы, якія сведчаць аб мінуўшчыне. Але людзі кажуць, што, менавіта рыхтуючыся да прыезду самой Кацярыны, высаджваліся гэтыя дрэвы. І гэта легенда ляжыць у аснове назваў многіх вёсак раёна. А можа і не беспадстаўна? У цэнтры Крычава на высокім касагоры стаіць палац, узведзены Р. Пацёмкіным — былым фаварытам Кацярыны. І яна была ў ім, калі "ваяжыравала" па Беларусі, аглядаючы правінцыі, якія незадоўга да гэтага былі далучаны да Расіі. Вельмі добра захаваліся бярозы на шляху Крычаў — Звянчатка. У той час князь Пацёмкін меў два палацы: у Крычаве і ў Звянчатцы. У Звянчатцы быў збудаваны драўляны палац, які да нашых дзён не захаваўся, а прозвішча ўпраўляючага было Звянчацкі — адсюль і назва вёскі.

**П. ШАЎЦОЎ. "Спрадвечнае". Мн., 1973, с. 62. В. ГРЫШКЕВІЧ, А. МАЛЬДЗІС. Шляхі вялі праз Беларусь, Мн., 1980, с. 82.**

**КАСПЕРКА**

Заснаваў вёску ўнук князя Андрэя Міхайлавіча Курбянога — Кашпер. Ад гэтага імя і пайшла назва Касперка.

**Са слоў К. МАЛАШАНКІ.**

**(Працяг будзе).**

## Узники фашистских концлагерей

# Горечь воспоминаний

### БАРАНОВ Виктор Никифорович
### (10 октября 1925 г. — 19 сентября 1999 г.)

**(Начало в №№ 29-34).**

**В ХОЗЯЙСТВЕ ГЕНРИХА ГОСМАНА**

Бауэр, его звали Генрих Госман, привез меня в хозяйство, повел в коровник. Там подвел к корове. Усадил на трехногую табуретку и сказал: "Битте". Я понял его. Уверенно взялся за два соска. Сжал их. Потянул вниз. Руки не слушались. Молоко не шло. Продолжал. Надеялся, что получится. Неожиданно корова так лягнула меня, что не усидел на табурете. Хозяин начал кричать. Схватил навозные вилы и стал размахивать ими. Казалось, взбесился. Кричит. Топает ногами. Размахивает вилами. Ударил черенком по голове. Искры посыпались из глаз. Услышал звон. Вроде отключился на секунды. Опомнился. Вижу Госман успокоился. Стоит напротив. Смотрит на меня, будто не узнает. Скоро успокоился и я.

Смотрю, Госман сам сел на табуретку. Начал доить. Пошло молоко. Начал показывать мне, как нужно выжимать молоко из вымя, а не дергать за соски. Спрашивает: фарштейн? Уступает мне табуретку. Научил скоро. Заставил доить семь коров. Кормить их. Убирать за ними. Подмывать им вымя.

Первое время опухали руки. По ночам сильно болели кисти во всех суставах. Скоро привык, и все пошло хорошо.

Госман заставлял меня выполнять и другие работы по хозяйству. С первого дня работы в хозяйстве Госмана я, как и все другие работники, жил и работал строго по распорядку.

Подъем — в 5 часов. Сразу же шел в сарай. Чистил коров. Убирал навоз. Подмывал коровам вымя. Давал им корм. Доил их.

Завтрак — в 9 часов. Хозяин с семьей питался отдельно. Все 7 работников питались вместе. После завтрака хозяин каждому работнику давал задание на день, кроме того, что каждый имел свои постоянные обязанности. Мне обычно давались задания на три часа, до 12 часов. После 12 и до обеда я работал в коровнике.

Обед — в 14 часов. После обеда короткий отдых. После все выполняли задания хозяина.

Полдник — в 17-30. Короткий перерыв всем. Пили кофе. После каждый занимался своим постоянным делом. Я работал в коровнике. Там должен был находиться с 6 до 21 часа, исключая отлучки на питание, полдник и задания Госмана. Конечно, там не только срок отбывал, но все делал так, как требовал хозяин.

Ужин — в 21 час. После отдых. Каждый мог заниматься своими личными делами, приводить в порядок свои вещи и одежду.

Отбой — в 22 часа. И так каждый Божий день с 5 до 22 часов. Мы не были приучены к такому распорядку и такой строгости. Поэтому тяготил и распорядок, и придирчивость Госмана, и его вспыльчивость. Но все-таки у него было значительно лучше, чем в литейном цеху на литейном заводе в г. Виттене.

В хозяйстве Госмана было семь работников. В их числе два местных немца. Оба психически ненормальные. Слышал, что один такой от рождения. Второго сделал придурком Госман пока учил его работать так, как он требовал. Ему ничего не стоило любого работника отстегать кнутом, дать оплеуху со всего плеча, ударить тем, что попало под горячую руку. Оба немца жили у Госмана постоянно. Они были у него до меня. Остались после меня.

Таких, как я, у Госмана было четверо. Это Николай из Сумской области, Вера из Ленинградской области, Васка, из Польши, и Андрей. Не знаю, откуда Андрей. Он был старше нас по возрасту. У хозяина был за доверенное лицо и жил у Госмана до моего появления там.

Всех работников Госман кормил нормально. А по тем временам и по сравнению с тем, что было в полицей-президиуме и на литейном заводе, отлично. Мы были сыты. Правда, у немцев кухня не такая, как у нас. В чем-то она лучше, но во многом — хуже. Такого, чтобы достать из борща мосол, взять в обе руки и объедать мясо, на второе куски тушеной говядины или свинины. Такого не бывало. Там больше тоненькие бутерброды. Первое на бульонах. Второе — гарниры с подливой, в которой редко увидишь кусочки мяса с горошину величиной. Главное, мы были сыты. Пропало желание вдосталь поесть хлеба.

У Госмана я скоро поправился. Сам замечал, что росту не по дням, а по часам. Как на дрожжах. Полнел. Набирался сил. Хозяин нередко поглядывал на меня и говорил: "Ви-Х-то, гут, гут" и показывал, как надуваются мои щеки и шея.

Конечно, на свежем воздухе, в сравнительно спокойной обстановке, без постоянного страха побоев надзирателей и конвоя, при нормальном питании, натуральных продуктах не страшна была никакая работа. Тем более, что вилами, лопатой и топором приходилось работать и ранее. А главное, кроме питания, был спокойный сон, режим работы и отдыха. Не то, что пришлось терпеть в Голубятне.

Признаюсь, был еще один секрет моей поправки. Это пристрастие к молоку. С тех пор, как помню себя, пил его с удовольствием и много. Правда, не всегда столько, сколько хотел.

Там, у Госмана, сначала осторожничал. Боялся, что он обнаружит снижение надоев. Догадается о причине. Накажет. Дозу увеличивал постепенно. Действовать стал смелее. Обычно делал так: во время дойки осматривался, чтобы никого не было поблизости и никто не мог увидеть, что пью молоко прямо из доенки. Наклонялся над нею. Закрывал глаза и рот. Опускал лицо в молочную пену до тех пор, пока губами почувствую теплое парное молоко. Потом с великим удовольствием сосал его. Сколько хотел и мог. И так было до глубокой осени.

Кроме дойки коров и ухода за ними, мне поручались разные хозяйственные работы. Теперь, вспоминая то время и все, что там делал и как делал, нахожу и грубость хозяина, и свои оплошности, и трудности, и даже поучительное для себя. И не только для себя лично. Поэтому и расскажу о некоторых эпизодах.

**(Продолжение следует).**

## Віншуем!

**Людмилу Васильевну**
**КИСЕЛЕВУ,**
**заведующую библиотекой**
**сельхозтехникума**
**С ДНЕМ РОЖДЕНИЯ!**

Дорогая именинница!
Пусть в твоем сердце
молодость не гаснет,
А вместе с ней — любовь
и доброта.
Пусть вечным гостем будет
в доме счастье.
Покой, уют, друзья и красота.
На мир смотри ты
с наслажденьем
И пусть отступит горе и беда
Пускай успех, удача и везенье
Тебе сопутствуют всегда.

**Коллеги по работе.**

* * *

**Веру Владимировну**
**РАТУШНУЮ**
**С 50-ЛЕТИЕМ!**

Милая наша именинница! Поздравляем с Днем рожденья. Желаем всегда быть тебе милой, веселой, доброй, красивой, нежной и любимой, счастливой, ласковой, простой. И всем мечтам желаем сбыться, глазам от радости искриться, здоровой быть и молодой, для всех желанной и родной.

**Муж Михаил Пантелеевич, сын Дмитрий.**

* * *

**Дмитрия Петровича**
**КУЧЕРЯВОГО**
**С 19-ЛЕТИЕМ!**

Дорогой Дима! В этот чудесный майский день прими от нас сердечные поздравления и самые добрые пожелания! Пусть люди хорошие тебе встретятся, пусть глаза твои счастьем светятся, и любовь у тебя пусть будет до самой старости, а мы желаем тебе только радости. Здоровья тебе крепкого, жизнерадостного настроения, хороших друзей на жизненном пути!

**Любящие тебя мать, отец, бабушка, племянник.**

**Чытач — газета — чытач**

## Работа — па графіку

У газеце "Родная ніва" (№ 23 ад 22 сакавіка г. г.) была змешчана карэспандэнцыя пад назвай "На пераломе", дзе жыхары в. Стары Дзедзін скардзіліся на тое, што фельчарска-акушэрскі пункт у іх не працуе з пачатку лютага. А без першай медыцынскай дапамогі на вёсцы не абыйсціся.

Як адказаў рэдакцыі галоўны ўрач Клімавіцкага РТМА У. І. Абулхаіраў, на час водпуску па догляду за дзіцяці загадчыцы Стара-Дзедзінскага ФАПа Чуйковай М. І. для абслугоўвання насельніцтва, пражываючага ў радыусе абслугоўвання данай лячэбна-прафілактычнай установы, накіроўваліся медыцынскія работнікі цэнтральнай раённай бальніцы тэрмінам на 1 месяц: з 10 студзеня 2000 года — Пруднікава Е., з 1 сакавіка — Александровіч Н., з 3 красавіка да выхаду з водпуску Чуйковай М. — Вітко І.



## У Галічах — знаходлівыя

"Добры дзень, паважаныя паклоннікі клуба вясёлых і знаходлівых!" — вітае вядучая праграмы Ірына Аўхіменка поўную залу балельшчыкаў. А зала гэта не малая — сельгастэхнікума. Тут райкам грамадскага аб'яднання БПСМ і аддзел па справах моладзі райвыканкама правадзілі фінальную гульню КВЗ.

Саппернікамі былі каманды першай сярэдняй школы горада і Галіцкай СШ. Капітаны каманд — васьмікласнікі Сярожа Магура і Марына Малашанка.

Рабяты ўдзельнічалі ў чатырох конкурсах, а дамашняе заданне іх мы глядзелі яшчэ ў час адборачнага тура. А, менавіта, гэты конкурс лічыцца цвіком праграмы, таму і адчувалася, што чагосьці не хапае на гэтай сустрэчы.

Пра балельшчыкаў: падтрымка з залы ў каманды гарадской школы была на вышыні, праўда не да канца. Што да галіцкіх рабят, то яны, зразумела, столькі не маглі мець балельшчыкаў. Толькі, бачна было, іх гэта не засмучвала. Смелыя хлопцы ва ўсіх адносінах!

Гэтыя дзве каманды мне асабіста ў аднолькавай ступені сімпатычныя, таму і балы выстаўляліся ім аналагічныя. А ўвогуле журы складалася з пяці чалавек і кожны меў свой пункт гледжання на ўсё, што адбывалася на сцэне.

І вось што атрымалася ў цэлым: на чатыры дзесятыя бала каманда "кэвээншчыкаў" Галіцкай школы абыйшла сваю саперніцу.

Старшыня журы Іван Андрэевіч Баршчоў, намеснік старшыні райвыканкама, аб'явіўшы вынік, уручыў капітанам адпаведныя Дыпломы, а другі сакратар райкама ГА БПСМ Сяргей Паўлючэнкаў па вялізнаму прыгожаму торту на кожную каманду.

А што атрымалі паклоннікі клуба вясёлых і знаходлівых? Добры, здаровы адпачынак ( бо смех — найлепшы лекар) і задавальненне.

**В. КВАРЦЮК.**

**Дзяржаўтаінспекцыя інфармуе**

## Тыдзень бяспекі

З 1 па 7 мая бягучага года ў Еўропе праводзіцца трэці Тыдзень бяспекі дарожнага руху.

Многія краіны, у тым ліку і Беларусь, праводзяць кампанію ў рамках гэтага Тыдня пад лозунгам "Партнёрства на дарозе павышае бяспеку".

Мэта Міжнароднага мерапрыемства, як і папярэдніх, праходзіўшых у 1990-95 гадах, заключаецца ў тым, каб прыцягнуць увагу дзяржаўных органаў, прафесійных і грамадскіх арганізацый, удзельнікаў дарожнага руху да сур'ёзных сацыяльных і эканамічных вынікаў дарожна-транспартных здарэнняў і неабходнасці прыняцця эфектыўных мер, накіраваных на іх скарачэнне і зніжэнне цяжкасці вынікаў.

Штогод у рэспубліцы ў выніку дарожных здарэнняў гіне 1900 чалавек і 700 чалавек атрымліваюць раненні. Значная частка гэтых людзей — дзеці, састарэлыя і інваліды; веласіпедысты, вадзіцелі мапедаў. Траўміраваныя ў выніку ДТЗ дзеці ў шэрагу выпадкаў становяцца інвалідамі.

Асноўнай прычынай гібелі і ранення людзей з'яўляюцца іх халатныя адносіны да захавання Правілаў дарожнага руху.

Мерапрыемства, рэалізаваныя ў рамках першага і другога Тыдня бяспекі дарожнага руху, істотна паўплывалі на бяспеку ўразлівых удзельнікаў дарожнага руху.

У перыяд падрыхтоўкі да цяперашняй кампаніі Міністэрствамі транспарту і Унутраныў спраў Рэспублікі Беларусь распрацавана праграма, у рамках якой прадугледжана актывізацыя прафілактычнай работы, накіраванай на папярэджанне дарожна-транспартных здарэнняў, расшырэнне інфармаванасці насельніцтва аб бяспечных паводзінах на аўтамабільных дарогах.

Вельмі важна, каб усе ведамствы і арганізацыі прынялі самы непасрэдны ўдзел у рэалізацыі ўказанай праграмы, бо толькі агульнымі намаганнямі можна дабіцца нейкіх вынікаў у захаванні жыцця і здароўя людзей.

Галоўнае, што патрабуецца ад кожнага ўдзельніка дарожнага руху — гэта няўхільнае захаванне Правілаў дарожнага руху, якія з'яўляюцца гарантам нашай бяспекі.

Дзяржаўтаінспецыя г. Клімавічы жадае Вам удачы на дарогах, шчаслівага і небяспечнага шляху!

На працягу тыдня — з 1 па 7 мая — вадзіцелям транспартных сродкаў неабходна рухацца з уключаным бліжнім святлом фар.

**В. СУЗДАЛЕЎ,**
**старшы інспектар ДПС аДАІ.**

## Каб быў прафактыў дасведчаным

Райкам прафсаюза работнікаў АПК, сумесна з упраўленнем сельскай гаспадаркі і харчавання, правялі вучобу прафактыву, на якую запрашаліся старшыні прафкамаў, спецыялісты па кадрах, галоўныя эканамісты, інжынеры па ахове працы і тэхнікі бяспекі.

Пра рэгуляванне працоўных адносінаў у адпаведнасці з працоўным кодэксам расказаў прысутным загадчык аддзела абкама АПК В. М. Міткевіч.

Аб практыцы прымянення працоўнага заканадаўства гаварыў памочнік пракурора раёна М. І. Тагаеў. Пра змяненні ў жыллёвым заканадаўстве паведаміла юрысконсульт райвыканкама С. В. Буза.

Вынікі семінара-вучобы падвёў старшыня райкама прафсаюза работнікаў АПК У. А. Ціпанкоў, які заклікаў адказных прафработнікаў расказаць членам прафсаюза ўсё, што звязана з новым заканадаўствам і ўдзяліць належную ўвагу прыняццю калектыўных дагавораў.

**І. ЛАПО.**

## Госці медвыцвярэзніка

Дзейсная барацьба з п'янствам сёння становіцца настолькі неабходнай, што без яе немагчыма ўявіць сабе паступальны рух наперад у грамадскіх, сямейных, эканамічных адносінах. "Родная ніва" будзе сістэматычна публікаваць спісы ахвотнікаў кульнуць чарку на рабочым месцы, тых, хто з'яўляецца ў непатрэбным выглядзе на людзях, хто пабываў у медыцынскім выцвярэзніку. Нядаўна там адпачывалі:

Зык Генадзь Мечыслававіч, 1959 г. н., непрацуючы, в. Ціманава, вул. Заводская, д. 2, кв.4.

Камында Васіль Мікалаевіч, 1961 г. н., вадзіцель райаграпрамтэхзабеспячэння, вул. К. Маркса, д. 1, кв. 6.

Каспераў Іван Іванавіч, 1961 г. н., слесар камбіната хлебапрадуктаў, вул. Юнацкая, д. 19.

Прыпадаеў Дзмітрый Рыгоравіч, 1981 г. н., трактарыст ПМК-9, вул. 50 год СССР, д. 37.

Усе яны пакараны згодна артыкула 159 КоАП РБ.

## Спорт

Каманда валейбалістак з Клімавіч заняла другое месца (з шасці каманд) ў XII абласной спартакіядзе, што праходзіла ў г. Магілёве. Рыхтавала каманду трэнер Людміла Пашкевіч.

* * *

Абласны турнір па грэка-рымскай барацьбе адбыўся ў г. Крычаве. Нядрэнна выступілі ў ім клімаўчане. Першае месца ў розных вагавых катэгорыях занялі Аляксандр Пронін і Заур Аліеў, Андрэй Кажамякін і Аляксандр Пруднікаў.

* * *

Прайшло першынство горада па ручному мячу сярод навучэнцкай моладзі. Прызавыя месцы тут размеркаваліся наступным чынам: першае заняла каманда сярэдняй школы № 1, другое — трэцяй гарадской школы, а на трэцім месцы — СШ № 2. Прадстаўнікі каманд: Уладзімір Нікалайчанка, Аляксандр Дзячкоў, Альбіна Шапарава.

**В. КВАРЦЮК.**

### "01" сообщает

### Новое в службе

Согласно приказа № 58 МЧС от 10.04.2000 г. "О переименовании органов и позразделений по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь и предании статуса" Минское высшее пожарно-техническое училище переименовано в Минский командный инженерный институт МЧС РБ; Гомельское среднее пожарно-техническуое училище переименовано в Гомельское высшее командное инженерное училище МЧС РБ; отряд военизированной пожарной службы № 10 Климовичского района (ОВПС-10) переименован в Пожарный аварийно-спасательный отряд (ПАСО); отдельные посты Военизированной пожарной службы ОП ВПС переименованы в Пожарные аварийно-спасательные посты (ПАСП).

**А. МЕДВЕДЕВ,**
**зам. начальника по РЛС ПАСО.**

## Лес любит чистоту

Уважаемые жители нашего города Климовичи. Лесная охрана района в особенности Климовичское и Гусарское лесничества ставит вас в известность, что вокруг г. Климовичи лесные массивы — защитные леса., а в районе железнодорожной станции Климовичи, д. Реут, Тимоново, Павловичи — это лесопарковые леса.

В этих лесах в основном отдыхают в свободное от работы время любители природы.

Природа — это окружающий нас чистый воздух, вода, растительный и животный мир, беречь ее — это значит обеспечивать себе здоровье и благоприятные условия жизни. Совершая путешествия в лес, на речку, особенно весной, когда все оживает, ты видишь, какие прекрасные сосновые боры, дубравы, лиственный лес, они дают тебе радость и новые силы, но для этого надо быть настоящим другом природы, и не только любить ее, но и знать, понимать ее.

Уважаемые любители природы, посмотрите, что творится в этих лесопарковых лесах в районе д. Реут, Тимоново да и во многих других местах. Эти прекраснейшие леса превращены в свалки, что только сюда не вывозят и не выбрасывают, не смотрят — лес это или дорога, поляна или речка, все красивейшие места засорены бытовыми, строительными и разным домашним мусором и отходами. И тот, кто любит природу вместо приятного отдыха получает разочарование, давайте прекратим загрязнять лес отходами и мусором.

Лесная охрана ставит в известность всех граждан города и деревень, что при обнаружении тех, кто вывозит и сбрасывает мусор, засоряет лес подвергается штрафу в размере до 20 минимальных зарплат.

Убедительно просим всех граждан, вывозите все свои бытовые отходы на городскую свалку.

Сделаем наши леса чистыми!

**В. ПОЗДНЯКОВ,**
**мастер по охране леса и охотфауны Костюковичского лесхоза.**

## Актыўнасць — амаль 100-працэнтная!

Прайшла 12-я раённая спартакіяда па лёгкай атлетыцы.

Сярод сярэдніх школ горада першае месца заняла трэцяя гарадская школа, другое — СШ № 1, а на трэцім месцы сярэдняя школа № 4.

Па групе сельскіх школ лідзіравала каманда Красавіцкай сярэдняй школы. Палошкаўская і Барсукоўская школы занялі адпаведна другое і трэцяе месцы.

У пераможцах сярод няпоўных сярэдніх школ Асмолавіцкая, Паўлавіцкая, Гусаркаўская.

**В. КВАРЦЮК.**

**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт саўгаса "Мілаславіцкі" выказваюць глыбокае спачуванне старшыні райкама прафсаюза работнікаў АПК ЦІПАНКОВУ Уладзіміру Аляксеевічу з выпадку напаткаўшага яго вялікага гора — смерці ЖОНКІ.**


**Галоўны рэдактар Мікола МІНЧАНКА**

**"РОДНАЯ НІВА". Заснавальнікі: Клімавіцкі раённы выканаўчы камітэт, Клімавіцкі раённы Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі.**

**Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах 2 разы на тыдзень — па серадах і суботах.**

**Кошт 1 экземпляра газеты — 32 рублі.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213600 г. Клімавічы, пл. 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, д. № 1.

ТЭЛЕФОНЫ: галоўнага рэдактара -- 2-11-69, намесніка рэдактара і загадчыка аддзела савецкага будаўніцтва -- 2-11-60, адказнага сакратара -- 2-12-63, аддзелаў сацыяльных праблем і інфармацыі, рэдактара аддзела па рэкламе і аб'явах -- 2-12-65, аддзела эканомікі і бухгалтэрыі -- 2-12-64, аддзела радыёінфармацыі -- 2-31-58, прыёмнай рэдакцыі -- 2-11-69, мясцовай друкарні --2-31-55.

Рэдакцыя газеты мае права публікаваць артыкулы і іншыя матэрыялы ў парадку іх абмеркавання, не падзяляючы пры гэтым думкі, погляды і меркаванні таго ці іншага аўтара.

За змест аб'яў і іншых рэкламных матэрыялаў рэдакцыя не адказвае. Усе даведкі -- у рэкламадаўцаў.

**Цэнтралізаваны выпуск газеты ажыццяўляе адказны выпускаючы Н. Абжыгалава.**

**Газета надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні імя Я. М. Свярдлова (вул. Першамайская, 70, тэл. 25-28-05). Аб'ём — адзін друкаваны аркуш.**

**Зак. 35. Тыраж 1780 экз. Індэкс 64078. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 286.**

**Выдавец — аддзел па друку Магілёўскага аблвыканкама**

**Газета падпісана да друку ў 17.00 2. 5. 2000 г.**